

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

№ 411 Сакавік 1994
Год выд. 43

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

# 76-ыя ЎГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



## САКАВІК 1994

Як і дзесяткі гадоў раней, сёлета беларусы на эміграцыі ўрачыста адзначаюць Сакавіковае Сьвята — Дзень Беларускае Дзяржаўнасьці — Беларускае Народнае Рэспублікі. Дзякуючы дзейнасьці эміграцыі Дзень 25 Сакавіка стаўся шырака ведамы ў сьвеце. У краінах пасяленьня беларускіх эмігрантаў, часта гэты дзень адзначаецца як урачысты дзень і тае краіны, дзе пасяліліся эмігранты. Хіба найгучней адзначаецца 25 Сакавіка ў ЗША: кангрэсмэнты, сэнатары, мясцовыя палітыкі бяруць удзел у адзначэньні 25 Сакавіка разам зь беларускімі грамадамі. Як звычай, у часе Сакавіковых Адзначэньняў робіцца і аналіз палітычнага стану на Беларусі. Беларуска-амэрыканскія арганізацыі — БАЗА і іншыя, у гэтай дзялянцы бываюць пачынальнікамі, ініцыятарамі. І бадай аднагалосна амэрыканская Беларусь выказвае вялікую ўстрывожанасьць апошнімі падзеямі на Беларусі.

Калі ўсяго пару год таму здавалася, пасьля блізу 200-гадовага каляніяльнага існаваньня ў складзе імпэрыі, палітыка якое і давяла да цяперашняга стану, беларускі народ зможа сам быць гаспадаром свае будучыні, свайго лёсу, дык у сучасны мамэнт гэтыя пагляды і спадзяваньні моцна пахіснуліся. Старая камуністычная сыстэма, прыдушвае Беларусь. Парлямэнт былое БССР — нячуваны й жудасны парадокс — прадаўжаў дзеіць у новай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь. Патрабаваньні народу (блізу паўмільёну грамадзянаў рэспублікі) аб правядзеньні новых выбараў былі зьігнараваныя. Усе дзеяньні гэтага парлямэнту — фактычна нязьдольнаму да самастойнага, дзяржаўнага думаньня, але з дасьветчаньнем, як кіраваць ворганамі падтрыманьня парадку, вульгарна маніпулюючы легалістычнымі прыёмамі дэмакратычнага працэсу, раскладалі краіну эканамічна, маральна й палітычна, вытвараючы ў народзе пачуцьцё бязвыхаднасьці, бязбудучнасьці, страху. І ў гэтай створанай палітычнай сытуацыі, былы камуністычны парлямэнт — Вярхоўны Савет — афармляе Беларусі новы саюз з Расеяй — адзіную першапрычыну усяе трагэдыі беларускага народу за мінулыя 200 гадоў.

Гэтак выглядае палітычны стан на Беларусі ў сакавіку 1994 году. І магчыма нам гісторыя дае шанс дэмаскаваць гэткую палітыку на Беларусі, даводзіць да ведама сэнату, кангрэсу, палітыкам ЗША і Вольнага Сьвету, што на Беларусі сёньня пачынаецца экспансія новайя імпэрыі — Расеі, якая ў будучыні можа ізноў пагражаць сьвету.

Беларусы павінны цяпер пакласьці ўсе сілы й спадзяваньні, каб гэтага не сталася. Яшчэ ёсьць надзея ў новых выбарах, якія заплянаваныя на сёлета.

Такая палітычная атмасфэра ў сакавіку 1994 году.

ДАРАГІЯ СУДРОДЗІЧЫ!

Ад імя Сойму БНФ «Адраджэньне» шчыра віншуем усіх сяброў і прыхільнікаў Фронту з галоўным нашым нацыянальным сьвятам — Днём Незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Павольна і няпроста юрыдычная незалежнасьць Беларусі напаўняецца рэальным зьместам. Супраціў антынезалежніцкіх і камуністычных сілаў не слабее. Навісла рэальная пагроза адкрытай здрады кіраўнічай намэнклятуры, якая гатовая зноў аддаць Беларусь у кіпцюры двухгаловага арла за свае дачасныя інтарэсы. Зноў у Беларусі парушаюцца правы чалавека, душыцца свабода прэсы, перасьледуюцца лідары рабочага руху — арганізатары нядаўных антыўрадавых страйкаў. Задумана і зьдзяйсьняецца ўвядзеньне пасады прэзыдэнта такім чынам, каб яе заняў намэнклятурны лідар.

І ўсё ж няўхільна расьце нацыянальная сьведамасьць нашага народу, усё больш і больш людзей пераконваюцца, што толькі ў незалежнай Беларусі магчыма стварыць дэмакратычнае грамадзтва, асновы здаровай эканомікі і заможнай гаспадаркі, што незалежная Беларусь — гарантыя пэрспэктывы культурнага адраджэньня і духоўнага працьвітаньня нашага народу.

Сусьветная супольнасьць павінна ведаць праўду аб тым, як Беларусь спрабуюць ператварыць ў паліцэйскую дзяржаву, як намагаюцца пазбавіць яе незалежнасьці насуперак волі народу, ў інтарэсах прарасейскай намэнклятуры. У пашырэньні такой праўды вялікую ролю маглі б адыграць вы, дарагія суродзічы, і тым дзейсна спрычыніцца да захаваньня і канчатковай перамогі ідэалаў 25 Сакавіка.

Ад душы зычым усім вам посьпехаў і плёну ўва ўсіх справах у гэты сьвяточны дзень.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**Старшыня БНФ «Адраджэньне»**

**Валянціна ТРЫГУБОВІЧ,**
**Старшыня Камісіі замежных сувязяў**

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**Старшыня палітычнай Камісіі**

12 сакавіка 1994, г. Менск

## ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ

1-га сакавіка сёлета Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову, што не пазьней як 26 чэрвеня 1994 году ў краіне мусяць адбыцца выбары прэзыдэнта рэспублікі.

### ШТО ЗРОБІЦЬ БНФ ПЕРШ ЗА ЎСЁ
### пасьля перамогі БНФ на выбарах

* Наводзіцца парадак, прымаюцца асаблівыя законы, выдзяляюцца сродкі і даюцца правы міліцыі для барацьбы з крымінальнай злачыннасьцю.

* Для грамадзян краін, якія вядуць вайну, уводзіцца візавы рэжым і асаблівыя правілы ўезду ў Беларусь. Гандаль зброяй забараняецца, гэтаксама як дзейнасьць сэктаў шарлатанаў і афэрыстаў.

* Усё, што намэнклятура нарабавала ў дзяржавы вяртаецца праз суд. Бандыты і злодзеі будуць сядзець у турме, а не займаць дзяржаўныя пасады.

* Уводзіцца закон аб люстрацыях (забарона на прафэсію). Асобы, якія былі кіраўнікамі КПСС-КПБ на 19 жніўня 1991 г., ня будуць займаць дзяржаўныя пасады.

* Разьдзяляюцца функцыі дзяржаўнай улады, уласнасьці і кіраваньня эканомікай шляхам раздзяржаўленьня прадпрыемстваў.

* Прымаецца новы антыкарупцыйны закон аб дзяржаўнай службе.

* Уводзіцца нацыянальная валюта. Упрадкуецца фінансава-крэдытная і банкаўская сістэма. Спыняецца інфляцыя і рост цэн.

* Прымаецца новы закон аб зямлі. Парадкуецца заканадаўства аб уласнасьці і прыватызацыі.

* Рэзка зьніжаюцца падаткі для вытворцаў.

* За адабраную бальшавікамі зямлю і маёмасьць даецца кампэнсацыя.

* Ліквідуецца бальшавіцкая сістэма Саветаў. Уводзіцца муніцыпальная сістэма мясцовой улады.

* Прымаецца сістэма гарантаванай сацыяльнай абароны насельніцтва. Дзяржава павінна будзе падзяліцца з пэнсіянэрамі, перадаўшы частку сваёй маёмасьці на карысьць пэнсійнага фонду.

* Праводзіцца кампэнсацыя грашовых укладаў насельніцтва.

* Будзе зроблена ўсё, каб прадухіліць фізычнае звырадненьне нацыі. Прэстыж, уладкаваньне і дабрабыт сям'і становіцца найважнейшым дзяржаўным клопатам.

* Прымаецца закон аб выкарыстаньні іншаземнай рабочай сілы. Грамадзяне Беларусі набываць прыярытэтнае права займаць вакантныя рабочыя месцы.

* Беларусь выходзіць з СНД.

* Зь Беларусі выводзяцца ўсе чужаземныя войскі.

* Усе рашэньні, прынятыя Вярхоўным Саветам пасьля 29 кастрычніка 1992 г. (калі быў незаконна забаронены рэфэрэндум) і скіраваныя супраць дзяржаўных і нацыянальных

*(Працяг на 2-ой б.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**НОВАЯ ФОРМА АДРАСУ «БЕЛАРУСА»!**

Калі ласка, запішэце сабе новую форму адрасу газэты «Беларус»:

**Bielarus**
**P.O. Box 310178**
**Jamaica, NY 11431-0178**

## ВЫБАРЫ...

*(Пачатак на 1-ай б.)*

інтарэсаў Беларусі, прызнаюцца несапраўднымі.

* Украдзеная і незаконна перададзеная іншым дзяржавам ці іх суб'ектам дзяжаўная маёмасьць Беларусі нацыяналізуецца і вяртаецца.

* Забараняюцца ўсе арганізацыі, якія выступаюць супраць незалежнай беларускай дзяржавы і яе Канстытуцыі.

* Умацоўваецца нэўтралітэт Беларусі. Робяцца захады для стварэньня Балтыйска-Чарнаморскай эканамічнай асацыяцыі дзяржаў, а ў пэрспэктыве — усіх дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы.

## У ЯКІ БОК БУДЗЕ «ГІБКІ» НОВЫ СТАРШЫНЯ ВС РБ?

Станіслаў Шушкевіч сказаў пра свайго наступніка на становішчы Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі:

«Ён (Мячаслаў Грыб) адрозьніваецца цудоўнай уласьцівасьцю адаптаваньня да любой сытуацыі. Калісьці я быў цьвёрда ўпэўнены, што Мячаслаў Іванавіч — прыхільнік беларускай дзяржаўнасьці. І таму прапаноўваў яго ў свае намесьнікі. На маё зьдзіўленьне, Вярхоўны Савет яго кандыдутуру не зацьвердзіў. Паўтараюся: ён чалавек вельмі гібкі і, відаць, у хуткім часе мы ўбачым праяўленьне гэтай якасьці» («Звязда», 1 лютага 1994)

## ВІЗЫТ У ЗША «ПРЭЗЫДЭНТА КЕБІЧА»?

Газэта «Зьвязда» (15.II.94) падала, што Міністэрства замежных спраў рэспублікі заплянавала «на другую палавіну году» візыт Старшыні Савету Міністраў РБ Вячаслава Кебіча ў ЗША. У першай-же палавіне году, як ведама, адбудуцца ў Беларусі прэзыдэнцкія выбары, у якіх адным з кандыдатаў будзе сп. В. Кебіч.

## « 'НАБАТ': ЦЯЖАР ЧАРНОБЫЛЯ НА ЛЮДЗЯХ БЕЛАРУСІ

Пад гэткім загалоўкам рыхтуецца ў Нью-Ёрку выхад англамоўнае анталёгіі паведамленьняў і артыкулаў з газэты «Набат». Тыднёвік «Набат» выходзіў данядаўна ў Менску пад рэдакцыяй журналіста й пісьменьніка Васіля Якавенкі. Выбар матар'ялаў з «Набату» і пераклад на ангельскую мову зрабіла сп-ня Людміла Торн, кіраўнічка Аддзелу Дасьследаваньняў Нованезалежных Дзяржаваў ньюёркскай арганізацыі Freedom House (Дом Свабоды).

У матар'ялах, зь якіх складаецца кніга, увага засяроджаная ня толькі на непамерна высокім узроўні радыяцыі, што выпала на долю Беларусі, але й на нядолі, пакутах людзей чарнобыльскай зоны, на перасяленцах, якія церпяць ад недаверу, а часамі й перасьледу на новым месцы пасяленьня; расказваецца аб фактах масавага захворваньня дзяцей на Беларусі, аб фактах раскраданьня замежнае дапамогі ды розных іншых злоўжываньнях.

Кошты перакладу і частку коштаў выданьня кнігі згадзіўся пакрыць Расейскай Сацыяльны Фонд Аляксандра Салжаніцына. Але патрабуецца таксама й фінансавая дапамога ад беларускага грамадзтва, як пра гэта напісала ў лісьце сп-ня Л. Торн, разасланым некаторым амэрыканскім і канадзкім беларусам.

Трэба спадзявацца, што адрасаты лістоў і чытачы «Беларуса» адгукнуцца на заклік сп-ні Торн.

Разам зь лістом сп-ня Торн разаслала копію свайго артыкулу ў газэце «Нью-Ёрк Таймс» (I.XI.93), які яна напісала пра ахвяраў Чарнобыля ў Беларусі.

Выхад апрацаванае ёю кнігі шмат спрычыніцца да пашырэньня інфармацыі пра адно з найбольшых няшчасьцяў у гісторыі нашага народу.

Сп-ня Людміла Торн заслугоўвае ня толькі на падзяку за сваю выдатную ролю ў распаўсюджваньні інфармацыі пра Чарнобыль, але й на нашу падтрымку грашыма, каб гэтая інфармацыя разыходзілася яшчэ шырэй па сьвеце, які, на жаль, вельмі мала ведае пра страшэнны цяжар, што ляжыць сёньня на Беларусі.

## ЦІ НЕ СУПЯРЭЧЫЦЬ КЕБІЧ КЕБІЧУ?

У сваёй прамове ў Міры ў сьнежні 1992 г. Прэм'ер-Міністар Вячаслаў Кебіч сказаў:

« (Я) прыйшоў да адназначнай высновы: сапраўдная дзяржаўнасьць і незалежнасьць пачынаюцца зь незалежнай і моцнай эканомікі».

А 28 студзеня сёлета, выступаючы перад удзельнікамі рэспубліканскага сэмінара, кіраўнік беларускага ўраду сказаў ужо штосьці зусім іншае: «наша палітыка паранейшаму будзе нацэлена на паглыбленьне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй» («Звязда», 1 лютага 1994).

Цікава, як можа быць «незалежнай» «інтэграваная» ў расейскую эканоміка Беларусі?

# ЯШЧЭ АБ ПОЛЬСКІМ МЭСІЯНІЗЬМЕ

У гэтым артыкуле пастараюся азнаёміць чытачоў «Беларуса» з польскай эміграцкай прэсай, што выдаецца тут у Англіі: як паляки апісваюць місіянерства і каталіцызм на Беларусі.

Палякі заўсёды любяць падкрэсьліваць і хваліцца, што Польшча — гэта «перадмур'е» хрысьціянства, а Беларусь яны ўважаюць сваёй «місійнай тэрыторыяй». Зусім лягічны вынік такой думкі — цяперашні наезд польскіх каталіцкіх ксяндзоў на Беларусь.

У польскай штадзённай газэце «Дзеньнік Польскі», што выходзіць у Лёндане, у нумары за 2 траўня 1993 г., пад заг. «Помост і пшэдмужэ» (памост і перадмур'е) сп. А. Віткоўскі піша, што сказаў сваім біскупам пару дзён перад сьмерцю вялікі польскі патрыёт, прымас Польшчы Стэфан Вышыньскі. Вось ягоныя словы:

«Касьцёл мусіць застацца тут, дзе ён ёсьць, бо безь якойсьці там напышаньсьці трэба прызнаць, што ён — перадмур'е хрысьціянства. Адсюль Касьцёл пойдзе на Ўсход. Табе, дарагі біскуп Пярэмышля, і ня толькі Пярэмышля, а ўсёй гэтай цудоўнай зямлі, адкрытай на поўдзень і на ўсход Польшчы, прыпадае вялікая адказнасьць Касьцёла Польшчы за разьвіцьцё яго ў тых краёх і адначасна ўсьведамленьне неабходнасьці поступу лацінскай і нацыянальнай культуры ў тыя краі. (...) Для Касьцёла ў Польшчы Ўсход адкрыты. Да здабыцьця — цэлага...»

Калі чытаеш гэтыя словы пакойнага прымаса Вышыньскага, дык міжволі прыходзіць на памяць даваенны нямецкі кліч Drang nach Osten, націск на Ўсход. Цяпер ужо іншыя людзі ціснуцца на Ўсход!

Далей у тым-жа артыкуле сп. Віткоўскі робіць вельмі цікавую заўвагу, а менавіта:

«Гэтая праграма–тэстамэнт прымаса Вашыньскага **пакрываецца поўнасьцю з думкамі Ватыкану**» (маё падкрэсьленьне – М.Ш.).

Вось аб чым думаў перад сьмерцю вялікі прымас Польшчы. Прачытаўшы гэты запавет-тэстамэнт, разумееш, адкуль ідзе работа польскіх ксяндзоў на Беларусі. Яны выконваюць волю свайго пакойнага прымаса Вышыньскага і палітыку Ватыкану.

У тым-жа «Дзеньніку Польскім» за 20 верасьня летась нейкая Джулі Гайкель (Julie Hykiel) апісвае сваю паездку з Англіі на Беларусь ад імя польскай (лёнданскай) арганізацыі пад назовам Aid for Poland (дапамога Польшчы). Вось што яна, між іншага, піша:

«Усюды (у Беларусі) апатыя і бязраднасьць. Няма гігіены, гультайства, незараднасьць — гэта адно з дасягненьняў рэальнага сацыялізму. Людзі скрытыя, замкнутыя, недаверлівыя. Страх яшчэ паралiжуе іх...

«Гэткая Беларусь сёньня. Якой яна будзе заўтра? Паводле а. Рышарда (францішканца з Гальшанаў), шмат залежыць ад ксяндзоў з Польшчы. Калі яны праявяць тактоўнасьць і зразуменьне, тады яны адхіляць недаверлівасьць, выкараняць прадузятасьць, пашыраць веру. Тады Беларусь зможа стацца краінай з народам моцным, багатым, сумленным і працавітым.

«Пашыраньне і адбудоўваньне веры ў Каталіцкім Касьцёле, на думку а. Рышарда, важнейшая справа, чымся адбудоўваньне самых касьцёлаў. Паколькі ёсьць страх, што польскія ксяндзы будуць выкінуты (зь Беларусі), а. Рышарду даверана справа заснаваньня сэмінарыі для капуцынаў і францішканцаў беларускага паходжаньня». І гэтак далей.

Тут усё ясна. Айцец Рышард зрабіў вялікае адкрыцьцё XX-га стагодзьдзя, а сп-ня Гайкель паўтарыла, а менавіта: якая будзе Беларусь у прышласьці, «шмат залежыць ад ксяндзоў Польшчы». Што за лухта! Шкада толькі, што словы, напісаныя сп-няй Гайкель, не чырванеюць ад сораму, а то згарэлі-б.

Варта тут зазначыць, што сп-ня Гайкель ня езьдзіла ў Беларусь з пустымі кішэнямі — езьдзіла з далярамі для розных польска-каталіцкіх парафіяў у Беларусі. Між іншага, падарыла 500 даляраў для касьцёла ў Гальшанах. Абдарыла і іншыя каталіцкія парафіі.

«Дзеньнік Польскі» за 30 жнівеня летась падаў наступнае: «Ксёндз З. Кароляк... у Берасьці залажыў школу, моладзежны гурток, бібліятэку і аптэку». Цяжка зразумець, што ўсё гэта мае супольнага з пастырскай работай кс. Кароляка.

У «Дзеньніку Польскім» зьмяшчае часамі свае допісы кс. В. Блін з Магілева. Дзеліцца кс. Блін сваімі думкамі з польскай эміграцыяй у Англіі, а не, скажам, з чытачамі газэты «Беларус» у ЗША.

Цікава, якая палітыка ў дачыненьні да польскага касьцёла ў нашых суседзяў, летувісаў і ўкраінцаў?

Летувісы — народ каталіцкі. Яны палякаў і іхную рэлігійную палітыку добра ведаюць. Летувісы не дазваляюць польскім ксяндзам і настаўнікам прыяжджаць з Польшчы на місіянерскую працу ў Летуву.

Што да Ўкраіны, дык туды таксама едуць розныя місіянеры, але хіба ня так многа, як на Беларусь. Нядаўна група ўкраінскіх інтэлігентаў напісала адкрыты ліст да Прэзыдэнта Краўчука з просьбай, каб той спыніў дзейнасьць місіянераў на Ўкраіне.

І на заканчэньне, хоць гэта і ня рэлігійная справа, варта ўспомніць, што кажуць і пішуць некаторыя палякі (пераважна былыя асаднікі і іхныя дзеці) аб Заходняй Беларусі на сваіх розных урачыстасьцях. У «Дзеньніку Польскім» з 18 сакавіка 1993 г. ўспамінаецца наступны верш-песьня пра Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну:

Забралі ад нас Каханыя Крэсы,
Гэту польскую зямлю ад дзеда-прадзеда
Шумлівыя лясы, нівы з залатым збожжам
І гарады, якім грозіць зьнішчэньне.

Забралі ад нас і ня пыталіся!
Адрэзалі краіну нашу чырвонай лініяй!
Плакала Польшча... і мы здалёку
Над усходняй зямлёй — асірацелай...

Ня ведаю, ці плакаць, ці сьмяяцца з гэтага верша. Думаю, што найлепш такую сьлёзную лірыку зьігнараваць.

*Англія*

**М. Швэдзюк**

# РОЛЯ АРХЕАЛЁГІІ Ў АДРАДЖЭНЬНІ САМАСЬВЯДОМАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Доўгі час самасьвядомасьць беларусаў была цесна зьвязана з этнонімам «літвін» (або «ліцьвін»), які азначаў як грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) у шырокім сэнсе, так і беларуса ў больш вузкім значэньні.

Тэрмін-жа «Белая Русь» з XIII па XVII стст. меў у асноўным чыста геаграфічнае значэньне і ня быў непасрэдна зьвязаны з арэалам распаўсюджваньня ўсяго беларускага этнасу.

У XVII ст. назва «Белая Русь» трывала замацавалася на ўсходзе ВКЛ і ахапіла ў асноўным тэрыторыю Смаленшчыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Мсьціслаўшчыны. Тады ў асноўным і зьявіўся этнонім «беларус» альбо «беларусец» як азначэньне карэннага жыхара вышэйзгаданай тэрыторыі.

Пасьля І-га падзелу Рэчы Паспалітай (РП) землі, што адыйшлі да Расіі, назвалі «вновь приобретенными» беларускімі губэрнямі, а іх мясцовых жыхароў — беларусамі.

Паступова да сярэдзіны XIX ст. этнонім « беларус» пашырыўся на ўсю этнаграфічную тэрыторыю Беларусі, пра што сьветчаць розныя гістарычныя і этнаграфічныя карты другой паловы XIX – пачатку XX стст., зробленыя як расейскімі, так і нямецкімі ці аўстрыйскімі гісторыкамі і этнографамі.

Аднак значная частка насельніцтва зь цяжкасьцю (асабліва гэта датычыла шляхты і клерыкальнай інтэлігенцыі) атаясамлівала сябе зь беларускім этнасам і зьяўлялася «польскамоўнымі літвінамі», якія пры гэтым разумелі і вясковую «простую» беларускую мову сялян. Дастаткова прыгадаць сьветапогляд Адама Міцкевіча.

У гэтым часе, калі сярод беларускай інтэлігенцыі ня было сваіх сьвядомых беларускіх гісторыкаў, моцна стаў разьвівацца этнагістарычны эгаізм летувіскай інтэлігенцыі, якая ўзмоцнена стварала гістарычны міф аб тым, што ВКЛ — гэта гістарычная дзяржава жмудзінаў і аўкшайтаў, і што этнонім «літвін» («ліцьвін») азначаў толькі балтаў. Не адставалі ад іх і польскія, а потым і расейскія гісторыкі, якія стараліся прыбраць да рук значныя культурныя і гістарычныя каштоўнасьці, што былі створаны рукамі беларускага народу.

У выніку гэтай шматгадовай дзейнасьці на тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі зьявіліся «літоўскія» замкі, «польскія» касьцёлы і сядзібы і «рускія» старажытныя храмы. Беларусам суседзі пакінулі толькі лапці і славуты «калтун».

Таму ў канцы XIX ст. гістарычная самасьвядомасьць беларускага народу была на мяжы зьнікненьня.

Толькі этнаграфічныя і археалягічныя працы шматлікіх дасьледчыкаў беларускай мінуўшчыны не дазволілі цалкам патушыць ледзь бачны агеньчык беларускай гістарычнай думкі.

Важным пунктам адліку ў станаўленьні беларускай гістарычнай навукі быў IX археалягічны зьезд, які адбыўся ў Вільні сто гадоў таму, 1-14 жніўня 1893 году.

У яго правядзеньні ўпяршыню ўдзельнічалі розныя прадстаўнікі тагачаснай гістарычнай навукі «Северо-Западного края», а менавіта археолягі, краязнаўцы, этнографы, гісторыкі, літаратары, фальклярысты і інш. У кожнай губэрні вяліся работы па стварэньню археалягічных карт, была наладжана выстава археалягічных знаходак у Вільні. Гэта стымулявала стварэньне музэяў у губэрнях і некаторых павятовых цэнтрах тагачаснай Беларусі.

Даклады і паведамленьні, заслуханыя на зьезьдзе і выдадзеныя ў двух тамах у 1895-1897 гадах, засьветчылі гістарычныя адметнасьць матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі.

Менавіта на гэтым грунце потым у пачатку XX стагодзьдзя ўзьніклі гістарычныя працы А. Луцкевіча, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, Е. Раманава і іншых знакамітых беларускіх асьветнікаў.

Асьветніцкая праца, праведзеная «Нашай Нівай», дазволіла беларусам паставіць 25 сакавіка 1918 г. перад усім сьветам пытаньне аб адраджэньні сваёй дзяржаўнасьці.

Традыцыйную ўвагу да беларускай археалёгіі ў 1920-я гады ў БССР захавалі спачатку Інбелкульт, а потым і АН БССР.

Беларуская археалягічная школа, створаная Ляўданскім і Палікарповічам, была адной з самых вядомых на тэрыторыі тагачаснага ССР. Мастацтвазнаўчыя працы М. Шчакаціхіна і І. Хозерава, якія грунтуюцца на шматліках археалягічных матэрыялах, вывелі беларускае мастацтвазнаўства і гісторыю архітэктуры на агульнаэўрапейскі і сусьветны ўзровень.

І таму не выпадкова, што сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў найбольш зачапілі менавіта археалёгію. У 1945 годзе ў Інстытуце гісторыі АН БССР было толькі тры спэцыялісты-археолягі, зь якіх два — былыя польскія археолягі з Заходняй Беларусі, муж і жонка Галубовічы.

Археалягічная навука на тэрыторыі Заходняй Беларусі ня мела нацыянальнай беларускай афарбоўкі і працавала ў асноўным на афіцыйную палітыку палянізацыі «Крэсаў Всходніх». Выключэньнем зьяўляецца дасьледчая праца Язэпа Драздовіча, які пакінуў удзячным нашчадкам сотні малюнкаў і дзёньнікавых запісаў аб стане і выглядзе нашых археалягічных і архітэктурных помнікаў.

Гісторыю археалягічнай навукі ў паваеннай БССР можна ўмоўна падзяліць на два этапы: 50-60-я гады, калі на тэрыторыі Беларусі працавалі шматлікія экспэдыцыі маскоўскіх і ленінградзкіх археолягаў, найбольш цікавыя экспанаты вывозіліся зь Беларусі і культурныя пласты XIV – XVIII стст. бязьлітасна зьнішчаліся.

У археалягічнай навуцы панавала «сталінская» вэрсія «древнерусской народности» і адзінай старажытнарускай дзяржавы, а культурная спадчына ВКЛ цалкам аддавалася ў карыстаньне «савецкім» летувіскім і «сацыялістычным» польскім гісторыкам.

Аднак у канцы 60-х пачатку 70-х гадоў пачала адраджацца нацыянальная археалягічная і гістарычная школа. Менавіта ў гэтым часе зьяўляюцца першыя публікацыі М. Ермаловіча, М. Ткачова, А. Грыцкевіча, М. Чарняўскага і іншых нацыяльна сьвядомых беларускіх навукоўцаў.

Менавіта па іх ЦК КПБ пад кіраўніцтвам П. Машэрава ў 1973 годзе нанесла рашучы ўдар, забараніўшы навукову канфэрэнцыю па этнагенэзу беларусаў. Аднак працэс станаўлення нацыянальнай беларускай археалёгіі ня спыніўся, а неўзабаве і значна пашырыўся. У 1973 годзе на гістарычным факультэце БДУ была адчынена кафэдра археалёгіі, а з 1976–1977 гадоў пачаліся шырокамаштабныя археалягічныя дасьледваньні гарадоў і замкаў эпохі ВКЛ.

Да 1991 году беларуская археалёгія, асабліва археалёгія позьняга сярэднявечча (XIV – XIX стст. і архітэктурная археалёгія заняла адно зь першых месцаў у археалёгіі СССР і яе здабыткі былі ўвасоблены ў такіх шматтомных энцыклапэдычных выданьнях як «Збор помнікаў гісторыі і культуры БССР», «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Этнаграфія Беларусі» і «Гісторыя беларускага мастацтва».

У гэтым часе быў пашыраны студэнцкі будаўнічы рух і на археалягічных раскопках працавалі сотні хлопцаў і дзяўчат, якія сталі ядром спачатку розных нефармальных аб'яднаньняў, а потым і Беларускага Народнага Фронту.

Не выпадкова, што ў кастрычніку 1988 году сярод 35 сяброў аргкамітэту па стварэньні БНФ было шмат археолягаў. Варта толькі прыгадаць імёны Міхася Ткачова і Зянона Пазьняка, Міхася і Ігара Чарняўскіх. Шмат археолягаў ўвайшло ў 1991 годзе і ў склад заснавальнікаў Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Зараз ва ўмовах існаваньня незалежнай беларускай дзяржавы з дапамогай археолягаў у леташнім годзе выйшла аднатомная энцыклапэдыя, прысьвечаная архітэктуры Беларусі, і хутка пабачыць сьвятло пёршая на Беларусі энцыклапэдыя археалёгіі і нумізматыкі, а таксама першы том «Гістарычнай Энцыклапедыі Беларусі»

*Менск*

**А.А. Трусаў,**

*Намесьнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук.*

# *ПЛЯНЫ КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ НА БЕЛАРУСІ СЁЛЕТА*

**18-20 траўня** ў Менску Беларускі ПЭН-цэнтр з удзелам Фонду Сорас-Беларусь арганізуе Міжнародны Кангрэс, асноўная тэма якога «Пост-таталітарнае грамадзтва: асоба і нацыя».

**14-15 чэрвеня** у Менску адбудзецца навуковая канфэрэнцыя «Беларуска-Амэрыканскія гістарычна-культурныя ўзаемаадносіны: традыцыі і сучаснасьць». Канфэрэнцыю арганізуе Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў.

**17 чэрвеня** Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчыны» праводзіць у Менску канфэрэнцыю «Культура беларускага замежжа».

**18-19 чэрвеня** як працяг гэтае канфэрэнцыі адбудзецца фэстываль мастацтва беларускага замежжа.

**Ліпень:** адбудзецца ўрачыстасьць адзначэньня 975-годзьдзя городу Берасьце.

*Ліст зь Беласточчыны*

## ПАБУДУЙМА ПРАВАСЛАЎНЫ АСЯРОДАК!

У Бельску-Падляшскім арганізуецца група моладзі, якая сваёй мэтай ставіць захаваньне ва ўсходняй Беласточчыне тутэйшай арыгінальнай духовай культуры — галоўным чынам помнікаў беларускага народнага побыту ды духоўнай спадчыны Праваслаўнай Царквы. Мелі мы ўжо першае спатканьне, падчас якога абмяркоўвалі формы дзейнасьці й спосабы ажыцьцяўленьня пастаўленых мэтаў. У дыскусіі шмат месца адвялі мы справе асяродка, які прыцягваў-бы і яднаў нашу моладзь. Ёсьць у нас намеры купіць пляц у вёсцы Стрыкі, на якім стаіць вятрак ды іншыя гаспадарскія будынкі з пачатку XX-га стагодзьдзя. Месца гэтае вельмі прыгожае, можна было-б там зьбірацца, супольна працаваць і адпачываць. Увесь комплекс, апрача таго, выконваў-бы ролю запаведніка.

Каб ажыцьцявіць гэтую ідэю, патрэбна аднак немалых матар'яльных сродкаў. Ня мушу хіба дабаўляць, што ў нас такіх грошай няма. Можа сярод нашай эміграцыі — асабліва праваслаўнай — ёсьць людзі, якія змаглі-б дапамагчы нам. Каб не выглядала, што мы хочам толькі грошай, нічога ад сябе ўзамен ня даўшы, хачу падзяліцца плянамі наконт арганізацыі гэтага асяродка.

Напэўна на эміграцыі ёсьць людзі, якія хацелі-б пабачыць родную зямлю, пажыць на ёй крыху, падыхаць ейным чыстым паветрам. Выгадней тое зрабіць — зь вядомых прычын — пакуль што на Беласточчыне. А як мы можам прыняць такіх гасьцей, што ім запрапанаваць? Вось таму, такі асяродак-запаведнік у Стрыках мог-бы быць дасканалым месцам для прыёму нашых суродзічаў.

Асабліва карысным і цікавым для нас было-б супрацоўніцтва з моладзьдзю. Можа пры Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ёсьць нейкія групы моладзі, зацікаўленыя такой формай супрацоўніцтва і магчымасьцю наведаньня Бацькаўшчыны іхных продкаў. Калі-б яны дапамаглі нам наладзіць матар'яльную базу, маглі-б пазьней карыстацца ёю на правах гаспадароў.

Хачу яшчэ дадаць, што рыхтуемся мы да заснаваньня фонду, пад рабочым пакуль што назовам: «Моладзь на Карысьць Разьвіцьця й Захаваньня Духоўнай Культуры Ўсходняй Беласточчыны».

**Дарафей Флёнік**

P.S. Усіх зацікаўленых гэтай справай, жадаючых атрымаць больш падрабязныя інфармацыі прашу пісаць на адрас: Doroteusz Flonik, ul. Wiejska 48, 17-100 Bielsk Podlaski, Poland.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## Новы сэзон у БІНіМе

**19 лютага** у памешканьні Фундацыі П. Крэчэўскага адбылася першая навуковая зборка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў 1994 годзе. Быў прачытаны даклад д-рам Янам Запруднікам аб сучасным эканамічна-палітычным становішчы на Беларусі. Дакладчык гэтаксама падзяліўся ўражаньнямі ад паездкі ў Беларусь у складзе амэрыканскае дэлегацыі, мэтай якой было дакладнейшае азнаямленьне з правядзеньнем рэформаў да дэмакратызацыі Рэспублікі.

***1-га сакавіка*** была наладжаная сустрэча з супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» сп. Алесем Лукашуком. Прыбыўшы зь Мюнхэну, а перад тым правёўшы пэўны час у Менску ў якасьці прадстаўніка Беларускае рэдакцыі РС, сп. Лукашук расказаў пра апошнія падзеі на Беларусі, зрабіў унікліві (і даволі пэсымістычны) аналіз эканамічнай і сацыяльна-палітычнай сытуацыі ў рэспубліцы. Па дакладзе адбылася дыскусія. Адказваючы на пытаньні, сп. Лукашук зазначыў, што ёсьць і сьвятлейшыя бакі рэчаіснасьці на Бацькаўшчыне, а гэта — маладое пакаленьне, якое расьце свабодным ад закамплексаванасьці і апатыі, якімі пазначаная пераважная бальшыня беларускага грамадзтва.

**12 сакавіка** госьць з Ангельшчыны айцец Аляксандр Надсон выступіў з дакладам, які абыймаў гэткія дзялянкі: дапамога суродзічам у зоне чарнобыльскай катастрофы, дзейнасьць бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане ды справы вуніяцкае царквы на Беларусі.

Ад дапамозе ахвярам Чарнобылю, айцец Аляксандар (ён быў у зоне Чарнобыля і дастаўляў туды дапамогу 15 разоў) сказаў, что хоць ён і ягоныя транспарты давозяць толькі лекі, дапамога патрэбная любая і як найболей. Стан у зоне, казаў айцец Аляксандр, сапраўды цяжкі: у хваробых выкліканых радыяцыяй шмат няведамых фактараў, аб праблемах радыяцыі ведама параўнаўча ня шмат, а таму, з наступствамі чарнобыльскае трагедыі беларускаму народу прыдзецца мучацца даўгія, даўгія дзесяцігодзьдзі ў будучыні.

Як дырэктар Скарынаўкі ў Лёндане, айцец Аляксандр, падкрэсьліў, што хоць цяпер і аддаецца вельмі шмат увагі дапамозе Чарнобылю, але не закідае і справы Бібліятэкі: кнігі набываюцца, парадкуюцца, ды цяпер айцец Аляксандар будзе мець там сталага супрацоўніка зь Беларусі.

Стан вуніцкае царквы гэтаксама прагрэсуе. Вуніяцкія абшчыны ёсьць у дзесяткох гарадоў Беларусі, у вуніяцкую веру набольш хрысьцяцца маладыя беларусы, ёсьць цяпер чатырох вуніяцкіх сьвятароў, а з гэтага году Беларуская Вуніяцкая Царква падначальваецца беспасярэдня Усходняй Кангрэгацыі ў Рыме, пакуль на Беларусь ня будзе прызначаны свой адміністратар.

Даклад выклікаў даўгую й канструктыўную дыскусію, а па дакладзе адбылося прыняцьцё.

### СТАН ЭКАНОМІКІ РБ

Індустрыяльная прадукцыя Рэспублікі Беларусь за студзень 1994 году на 37 працэнтаў меншая чым за адпаведны пэрыяд леташняга году.

*З жыцьця ў Гайленд-Парку*

### ЗАПУСКІ Й ЗАКУСКІ!

Людна й весела было ў нядзелю 6 сакавіка ў залі царквы Жыровіцкай Маці Божай БАПЦ у Гайленд-Парку. Стараньнямі царкоўнай рады (старшыня сп. Алег Дубяга) быў наладжаны супольны абед, каб адзначыць добрай традыцыяй надыход Вялікага посту. Аладкі са скваркамі й каўбасой ішлі нарасхват. Сп. Віктар Дубяга, які рабіў кілбасы (ён-жа правёў і лятарэю), сп-ні Люся Корнэр, Аня Лук'янчык і Аня Семянчук, якія пяклі аладкі, і Галіна Савіцкая, якая прыгатавала смачны й прыгожы торт і пончкі, заслужылі поўнасьцяй на камплімэнты ад ядуної і на цёплую падзяку ім, якую выказаў настаяцель а. прат. Васіль Андрэюк.

З зацікаўленньнем была выслуханая інфармацыя пра апошнія падзеі на Беларусі, якою падзяліліся сп.сп. Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель.

### РАЗЬВІТАНЬНЕ З М. ВАЎРАНЮКОМ

У нядзелю 27 лютага ў Нью-Брансьвіку адбыўся разьвітальны абед з журналістам беластоцкай газэты «Ніва» і гісторыкам Міколам Ваўранюком. Сп. Ваўранюк правёў колькі месяцаў у Злучаных Штатах, дасьледаючы біяграфію і бібліяграфію працаў сьв. пам. Станіслава Станкевіча ды паваенны пэрыяд гісторыі беларускай эміграцыі.

Сябры, супрацоўнікі і прыяцелі сп. М. Ваўранюка ў разьвітальных словах адзначылі плённасьць ягоных архіўных росшукаў і апытваньня жывых удзельнікаў падзеяў, пажадалі яму далейшых удачаў у ягонай публіцыстычнай і гістарычна-дасьледніцкай працы.

*З жыцьця ў Ільліной*

### ГУБЭРНАТАР ДЖЫМ ЭДГАР КАНДЫДУЕ ЗНОЎ!

Яшчэ 9-га лістапада мінулага году, на прэсавай канфэрэнцыі ў гатэлі Фэйрмонт у Чыкага, наш губэрнатар Джым Эдгар абвесьціў сваю кандыдатуру на другі тэрмін на губэрнатара штату Ільліной. На прэсавую канфэрэнцыю былі запрошаныя і этнічныя лідэры штату. Беларускую грамаду рэпрэзэнтавалі Вера і др. Вітаўт Рамукі.

Джым Эдгар добра выконвае свае абавязкі на становішчы губэрнатара і дбае пра дабрабыт усіх грамадзянаў у штаце Ільліной. Ён заўсёды прыхільна становіцца да беларускіх справаў і сымпатызуе нам у нашых імкненьнях. Спадзяемся, што грамадзяне беларускага паходжаньня у Ільліной возьмуць пад увагу ягоную добрую працу і аддадуць за яго свае галасы на перадвыбарчым галасаваньні (Primary Election), што адбудзецца 15 сакавіка, а таксама і на агульных выбарах увосень.

**Вера Рамук**

### НЕ ХАЦЕЛІ ПРЫЕЗДУ ПРЭЗ. КЛІНТАНА Ў БЕЛАРУСЬ

Станіслаў Шушкевіч, былы Старшыня ВС Беларусі сказаў у інтэрв'ю, зьмешчаным у кольких сталічных газэтах:

«Большасьць у Вярхоўным Савеце вельмі не хацела прыезду ў Менск прэзыдэнта ЗША, не хацела прызнаньня Клінтанам Беларусі як самастойнай эўрапейскай дзяржавы. І, можа, адна з самых галоўных вех у маім жыцьці – гэта тое, што візыт Клінтана, ня гледзячы на ўсе перашкоды, адбыўся, што мы падпісалі важныя дакумэнты, што ў высокага госьця склалася свая думка аб нашай Беларусі». (Звязда, 1 лютага 1994)

**Натальля Орса**

## УСПАМІНЫ

*ВАЙНА Й ПАЕЗДКА Ў ЯНАВІЧЫ Й МАСКВУ*

У 1914 г. памерла мама й пакінула бацьку й чацьвёра дзяцей. Суседзі ўгаворвалі бацьку жаніцца, але ён наадрэз адмовіўся, кажучы — «цяпер дзеці ня маюць маткі, а як жанюся, ня будуць мець і бацькі». Цяжка яму было спраўляцца з гаспадаркай і малымі дзецьмі, тым больш, што ён ня мог працаваць на гаспадарцы — меў пашкоджаную нагу. Старэйшая сястра працавала ў школе й дома ня жыла. На цяжкія работы тата наймаў, а хатнія, лягчэйшыя, выконвала я зь меньшаю сястрою. Усе хатнія работы былі нам зацяжкія, дык мы ўсё скардзіліся, што цяжка, але з часам трохі прывыклі й сяк-так спраўляліся.

Аднаго разу тата прывёз вялічэзны конусападобны стаўбур цукру пасьцяліў настольнік, пабіў цукер на кускі з курынае яйцо ды кажа — «Гэта табе, дзетка, работнікі. — Гэта-ж, кажу, цукер а ня людзі. — Як ты сваім каляжанкам дасі па куску — дык яны з вамі пераначуюць (тата часта тыднямі не начаваў дома — езьдзіў шыць) і памогуць унесьці бульбы са склепу і дроў, — а цукру не шкадуйце, я ізноў куплю». На вёсцы, як вядома, дзеці рэдка мелі цукер дык сяброўкі ахвотна прыходзілі начаваць. Прышоўшы са школы мы хуценька парабілі — трэба было прынесьці сена карове, ўнесьці бульбы са склепу, дроў у хату, каб заўтра толькі падпаліць у печы ды, як ўсё параблена, вячэралі, а тады рабілі хатнія заданьні, трохі пагулялі, а потым залазілі на печ і смакталі цукер. Гэта былі прыемныя часы, я іх і цяпер ўспамінаю, як нейкія асаблівыя мамэнты з майго жыцьця.

Па сканчэньні царкоўна-прыходзкай школы, я пачала прасіць тату, каб пусьціў мяне вучыцца. Тата вельмі цаніў навуку, ён вельмі быў шчасьлівы, што хоць адну дачку вывучыў на настаўніцу і гэтым ганарыўся, але быў ён, запраўды, у цяжкой сытуацыі. Старэйшая сястра ўгаворвала пусьціць мяне у навуку, а суседзі бунтавалі бацьку. Помню цэлае лета толькі й гутарылі ў хаце пра гэта. Нарэшце сястра сказала тату, што найме жанчыну і будзе аплачваць кожны месяц, а як хоча вучыцца то няхай ідзе.

Пасьля некаторых падрыхтовак сястра паехала са мною ў Янавічы, Віцебскай губ. Там была закрытая школа для дзяўчат, якую яна скончыла, дык і мяне туды завезла. Усе іспыты я прайшла добра, дык сястра пакінула мяне, сама паехала дамоў, бо трэба было пачынаць у школе навуку, хоць бальшыня дзяцей у пачатковых школах пачыналі хадзіць пазьней, калі ўжо ня трэ было пасьвіць жывёлу. Пераважна гэта было каля Пакроваў, нават і пагаворка была «Прышлі Пакровы — заганяй у хлеў каровы».

За гэты час нямецкае войска акупавала нашу мясцовасьць, дык сястра не магла дабрацца дадому — са Стоўбцаў вярнулася і паехала ў Петраград, а мяне завядоміла пісьмова, што яе ня пусьцілі дамоў і яна нічога ня ведае пра тату й сясьцёр. Гэтая вестка так на мяне падзейнічала, што я ўвесь дзень ляжала й плакала. Адна настаўніца пачала ўгаварваць каб ня плакала, а як не памаглі ўгаворы, то войстра сказала: «Як ня будзеш займацца — выкінем са школы». Ведаючы, што няма каму плаціць за навуку й утрыманьне, я пачала шмат працаваць і ўвесь вольны ад клясаў час праводзіла за кніжкамі. Гэтак праз некаторы час, я заваявала першанство ў клясе па навуцы. Так, няўгледкі надышлі Каляднія канікулы. Усе цешыліся, што па іх прыедуць і забяруць дамоў, яны будуць ласавацца смачнаю ядою, бо ім, як гасьцям, будуць даваць ўсё лепшае і будуць спаць колькі захочуць і як захочуць (у школе вымагалі, каб лажыліся на сьпіне а рукі паверх коўдра, чаго ўсе вельмі ня любілі). Я ня прыймала ўдзелу ў гутарках, а ўсё думала, як я буду жыць і дзе спаць і што есьці, як усе разьедуцца. Я ведала, што ўсе вялікія пакоі — як спальні, сталовая, кухня, вучэльня й заля для гульняў замыкаліся на ўвесь час канікулаў і не аграваліся, але нікога ні пра што ня пытала. І вось надыйшоў дзень ад'езду. Хутка пасьля сьнеданьня пачалі прыяжджаць бацькі. Пачалося ажыўленьне. Усе бегаюць, разьвітваюцца, сьпяшаюцца, а я сядзела ў куточку і ўсё паглядала на гэтую суматоху. Адна дзяўчына падышла да мяне разьвітацца й запытала ці я куды паеду й што думаю рабіць. Я сказала, што ня маю куды ехаць, а потым дадала — «Бог мяне ня любіць». На яе запытаньне, чаму я так думаю, адказала, што яна мае тату й маму, то й мае куды, ехаць на сьвята, ды расплакалася. У гэты мамэнт падышла адна настаўніца, абняла мяне ды кажа: «А ты будзеш у мяне сьвяткаваць» і пачала ўгаварваць, каб ня плакала, што цяпер дзякуючы вайне, многа такіх як я і сказала, што напісала сястры, што возьме мяне да сябе на канікулы.

Праз тры дні, дзяўчына, якой я сказала што Бог яе любіць, а мяне не, прыехала з братам і забрала мяне да сябе і ў іх я прабыла ўсе канікулы. Жылі яны кілёмэтраў 25 ад школы на хутары. Яе бацька быў шляхціч, але жылі яны небагата. Дзеці вельмі ганарыліся, што яны «дваране», а бацька заўсёды зь імі жартаваў — «Ня будзеце добра вучыцца й памагаць працаваць дома, то прадам «дваранства й застанецеся мужыкамі». Яны пачынаюць прасіць яго не рабіць гэтага, бо яны будуць памагаць у рабоце, толькі каб быць «дваранамі». Бацька пачынае расказваць, што яму ўжо нехта дае сто рублёў, але ён спадзяецца ўзяць больш за дзьвесьце дык трохі пачакае. Адзін

## ВІТАЕМ!

Нашых сталых падпішчыкаў, дабразычлiўцаў ды адданых грамадзкіх працаўнікоў — Міколу й Валерыю Сьнежкаў з 50-мі ўгодкамі сужэнства.

**«Беларус», сябры і знаёмыя**

## МАРКІ БЕЛАРУСІ




Прапаную навінкі філятэліі Беларусі (маркі, блёкі, канвэрты, паштоўкі і г.д.) ды іншы калекцыйны матар'ял.

Цікаўлюся маркамі, паштоўкамі, канвэртамі, адмысловымі гашэньнямі любых краінаў, зьвязанымі зь гісторыяй Беларусі (прыкладам, 100-годзьдзе М. Шагала), рознымі паштовымі і непаштовымі выпускамі, наклейкамі, выдадзенымі ў ЗША, Вялікай Брытаніі, Нямеччыне (юбілейная пошта БНР), а таксама навінкамі марак (чыстымі) розных краінаў.

Адкажу на ўсе лісты. Пісаць можна пабеларуску і паангельску на адрас: Беларусь 211030, Віцебская вобл., г. Ворша, Вузел сувязі, а/с 9, Жук В.А.

*У выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва выходзіць новая кніга*

## БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ ЙМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў ЗАХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ: 1945-1950

Аўтар Я. Максімюк

Кніга — першае большае дасьледваньне важнага эпізоду з жыцьця беларускае эміграцыі. Тут кожны беларускі эмігрант знойдзе цікавыя матар'ялы пра сябе, для сябе, пра сваіх сяброў і пра той цяжкі, цікавы, але дасюль мала дасьледваны час, калі пачалася вашая праца па-за Беларусьсю для Беларусі!

У кнізе:

* Паваенная эміграцыя ў Заходняй Нямеччыне
* Беларускія лягеры ДП: беларускае палітычнае, грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё
* Беларускае школьніцтва
* Скаўтынг
* Дэталёвы агляд і аналіз працы Гімназіі ймя Янкі Купалы
* Біяграфіі вучняў і настаўнікаў Гімназіі
* Дзесяткі фатаграфіяў
* Абшырны паказьнік і бібліяграфія

Ахвяраваньні на друк і замаўленьні кніжкі прыймаюць у

**BINiM**
**230 Springfield Ave.**
**Rutherford, N.J. 07070**

**«БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» № 38, 1994**
**Грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс**

У нумары (32 ст.): Рэзалюцыя 10-га зьезду Фэдэральнай Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі 19.I.1993 г.; зварот беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету РБ; ліст Расьціслава Завістовіча, Старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту, да сп. Анатоля Белага, Старшыні клюбу «Спадчына», і ўсім удзельнікам сьвяткаваньня 75-х угодкаў І-га Ўсебеларускага Кангрэсу; М. Кавыль — Размовы з Экзархам Філарэтам; Спатканьне (К. Мерляка з Э. Шыркоўскім); К. Мерляк — Хто каго мае судзіць?; вершы Л. Пранчака, М. Кавыля, П. Звоннага, А. Брусевіча, Л. Алданавай, С. Багдановіча; Анэля Катковіч — Мае ўспаміны; Ганаровыя сябры «Бацькаўшчыны»; Дзесяты зьезд беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі; лісты ў рэдакцыю; хроніка; песьня «Беларускія дзяўчаты» (сл. М. Кавыля, муз. З. Яўтуховіча); Гістарычныя вобразы Беларусі ў малюнках В. Маркаўца; ілюстрацыі.

Адрас: BELARUSIAN THOUGHT, 284 Whitehead Ave., South River, NJ 08882. USA.

раз паслаў іх прынесьці сена каровам ды пытае мяне ці мы памагалі тату у рабоце, а калі я расказала, як я працавала з малою сястрою, то ён ня мог паверыць.

На наступны дзень я пайшла зь імі ў гумно. Наскублі сена, а потым я пачала падгаворваць іх нарэзаць сечкі, дык дзядзьку будзе лягчэй. Дзяўчына прызналася, што яна ніколі гэтага не рабіла (а яна была старэйшая за мяне), а як спрабавала, то згадзілася, што ня так цяжка. З гэтага часу я і яны выконвалі ўсю хатнюю работу бяз бацькі, а ён быў вельмі задаволены і павёз нас усіх сустракаць Новы Год у Сураж ды ня скупіўся на прыемнасьці для нас. Калі-ж ён прывёз нас пасьля канікулаў у школу, то купіў мне чаравікі й запранаваў прыехаць на ўсё лета да іх. «Ты, кажа, навучыла маіх дваранаў працаваць». Я была вельмі задаволеная падарункам і абяцала прыехаць. Але гэтага зрабіць не магла, бо сястра напісала, каб ехала да цёткі на цэлае лета ў Кіеў, што я й зрабіла.

Вялікодныя канікулы правяла ізноў у Краўчанскіх на хутары. Было раз-водзьдзе, сядзелі пераважна дома. Адзін раз дзядзька сказаў: «Калі хочаце, то завязу вас у Капельку.» На маё запытаньне, што гэта такое, вытлумачыў, што гэта маленькая каплічка, якой ужо больш за 300 год, і ён любіць туды езьдзіць. Маленькая царква на чалавек ня больш 50, алтар, уся аздоба — разьба на дрэве і ўсе іконы на драўляных дошках выразаны або выпалены. Дзядзька, як увайшоў перахрысьціўся і нейкі момант стаяў, ціха моляччыся, а потым пажурыў нас, што мы не памаліліся. Ён гаварыў, што нейкая шынкарка прадаючы гарэлку чаркамі зьлівала астаткі й прадавала зноў, і гэтак праз усё жыцьцё, ды за сабраныя такім спосабам грошы пабудавала гэтую каплічку, а таму й назвалі Капелькай. Мажліва, што гэта была вуніяцкая каплічка.

Сястра гэтым часам кончыла курсы сясьцёр міласэрдзя ў Петраградзе й была назначаная ў 5-ы Георгіеўскі шпіталь у Маскве. Па пераезьдзе ў Маскву сястра напісала мне, каб я ехала да яе ў Маскву, каб не спазьніцца на экзаміны ў гімназію. Я была такая шчасьлівая, што буду вучыцца ў гімназіі, што не магла дачакацца дня ад'езду. У Маскве на станцыі сустрэла мяне сястра й сказала, што пры дапамозе нейкай генэральшы ўладзіла мяне ў «Общежитие для учащихся беженцев», куды мы адразу й паехалі, а празь дзень я ўжо прыступіла да іспытаў. Вынік іспытаў быў добры, дык прапанавалі затрымацца ў 4-й клясе, але трэба было падагнаць нямецкую мову, зь якой я ня была зусім знаёмая. І вось я ўжо вучаніца 3-й клясы эвакуяванай Рыжскай гімназіі ім. Людмілы Іванаўны Тайлавай. Я потым даведалася, што гэта была адна з найлепшых гімназіяў у Рызе. Вучаніцы былі зь сям'яў вышэйшых рускіх урадоўцаў і заможных латышоў. У 3-й клясе было 42 вучні зь іх адна жыдоўка, 4 рускія і я — беларуска, астатнія латышкі. У часе лекцыяў на спэцыяльнай лаўцы сядзела клясная дама (у кожнай клясе была клясная дама) і натавала абсалютна ўсё пра кожную вучаніцу ў дзеньнікі, а ў сыботу вучаніцы несьлі дзёньнікі дамоў і ў панядзелак прыносілі ў школу падпісаныя бацькамі або апякунамі. Пры такім парадку ні адна вучаніца не магла адсутнічаць, або не зрабіць хатніх заданьняў.

Тут хачу расказаць пра адзін выпадак, які пакінуў сьлед у маім жыцьці. Расейскую мову выкладада Лідзія Іванаўна Богосцева. Яна заўсёды чытала мае хатнія працы, як лепшыя. Адзін раз кажа, што я «так красиво і грамотно пішу, а говорю с польскім выговором». Я пачала даказваць, што я ня полька, а руская, бо хаджу ў царкву, а не ў касьцёл, а яна мне — «ты хадзі куды хочаш, а выгвар у цябе польскі». Я пачувала сябе вельмі пакрыўджанай. На перапынку клясная дама сказала мне, каб ня крыўдзілася на Лідзію Іванаўну, бо я ня руская, але і ня полька, а *беларуска* і абяцала заўтра нешта прынесьці мне й паказаць. На наступны дзень я зь нецярплівасьцю чакала й паглядала на яе, што яна мне пакажа. На перапынку яна паклікала мяне, дастала невялічкую кніжачку й папытала — ці я бачыла гэта й ці ўмею чытаць. З чытаньнем у мяне нічога ня вышла, дык я зьбянтэжаная пачала апраўдацца, што нас у школе ня вучылі так чытаць. «Ты паслухай, а я табе пачытаю». Як толькі яна прачытала пару сказаў, я выкрыкнула — «У нас так гаворaць». Так я першы раз сустрэлася зь беларускаю кніжкаю, а была гэта — «Дудка Беларуская» Мацея Бурачка. На маё запытаньне, дзе яна купіла кніжку — сказала, што ёй падарыў ахвіцэр-беларус, яе жаніх, і што ён забіты ў пачатку вайны, ды радзіла ня гневацца на настаўніцу, што назвала мяне полькай і *не баяцца прызнацца, што я беларуска*. Гэтае яна паўтарыла разы тры. Цяпер, як пачну прыпамінаць, як яна гаварыла са мною, асабліва як потым са мною абыходзілася, то прыходжу да перакананьня, што яна была сьведамай беларускай, паходзіла яна са Старой Русы. Пасьля гэтага выпадку настаўніца часта ўжывала беларускую мову ў гутарцы са мною.

У бурсе таксама былі пераважна латышкі, але ўжо тут было 18 беларусак — усе бежанкі. Гэтыя бурсы для бежанцаў знаходзіліся пад апекаю Тацянінскага камітэту. Дзеці мелі кватэру, ежу, вопратку й нейкую апеку ў галіне выхаваньня. Кіраўнічкай была старэйшая жанчына польскага паходжаньня. Яна мела памочніцу – выхавальніцу і дзьве работніцы пры кухні. Выхавальніца даглядала за дзяўчатамі — часам каторай дапамагала рабіць хатнія заданьні, а ў нядзелю ці ў сьвята пасьля сьнеданьня вадзіла нас па розных музэях, галярэях або на опэры на дзённыя спэктаклі, а па абедзе маглі ісьці да сваякоў, калі хто хацеў. Дзякуючы ёй мы пазнаёміліся амаль з усімі культурнымі здабыткамі, што знаходзіліся у Маскве, або блізка каля Масквы. У некаторых мясцох былі па некалькі разоў.

*(Працяг будзе)*

# КНІЖКА ПРА БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Eugeniusz Mironowicz. Białorusini w Polsce 1944-1949. Państwowe Wydawnictwo Naukowe, Warszawa, 1993.

Літаратура пра беларускую нацыянальную меншыню ў паваеннай Польшчы вельмі сьціплая. Прычынаю гэтага можна лічыць недастатковы інтэлектуальны патэнцыял саміх зацікаўленых — беларускай грамадзкасьці, у бальшыні сялянскай, — але галоўную ролю адыграў тут, бязумоўна, міт Польшчы як аднанацыянальнай дзяржавы. Тэзіс пра монаэтнічнасьць польскага грамадзтва прагучаў з партыйнай трыбуны і пакінуў балючы адпячатак на ўсіх амаль сфэрах жыцьця нацыянальных меншасьцяў у Польшчы. Ад 1989 году сытуацыя, як быццам-бы, папраўляецца, зьяўлюцца на гэту тэму розныя публікацыі, але, на жаль, якасьць іх таксама розная. Тым больш трэба вітаць манаграфію рэдактара беластоцкага тыднёвіка «Ніва» Яўгена Мірановіча «Беларусы ў Польшчы 1944-49 гг.».

«Пасьля другой сусьветнай вайны ў новых межах польскай дзяржавы апынуліся адно ўскраіны беларускай этнаграфічнай тэрыторыі — ва ўсходніх паветах Беластоцкага ваяводзтва. Блізу 200-тысячная беларуская грамадзкасьць не зьяўлялася праблемай у маштабе краіны, але даволі моцна паўплывала на рэгіянальную палітыку. Бальшыня беларусаў у Польшчы засталася жыць у сваіх мясьцінах, захоўваючы сваю культурную, рэлігійную і нацыянальную тоеснасьць у прыграннічных гмінах Беластоцкага ваяводзтва».

Гэтая цытата — пачатак кніжкі. Відаць зь яе, што па-за ўвагай аўтара засталіся беларусы, якія ў выніку рэпатрыяцыі апынуліся на захадзе Польшчы, на г.зв. «землях адзысканых». Але і на Беласточчыне не да канца ясна, каго лічыць беларусам. «Як асноўны крытэрый, — піша Я. Мірановіч, — сьледам за адміністрацыяй, лічу праваслаўнае веравызнаньне. Па-за маёй увагай застаецца шматлікі элемэнт, этнаграфічна беларускі, каталіцкага веравызнаньня. Такі падыход, хаця ён можа выклікаць шмат засьцярогаў, поўнасьцю апраўданы. Грамадзкія паводзіны і сыстэма прынятых вартасьцяў католікаў Сакольскага й Беластоцкага паветаў былі амаль ідэнтычныя з польскімі з суседняга Мазоўша».

Каб лепш зразумець першыя паваенныя гады, Я. Мірановіч паказвае багатую панараму жыцьця беларусаў у даваеннай Польшчы ды ўсе драматычныя зьмены падчас апошняй вайны. Далей чытач знойдзе інфармацыю пра эканамічнае палажэньне беларусаў Беласточчыны (у гадох 1944-49), разважаньні пра нацыянальную сьведамасьць, адносіны да палякаў і польскай дзяржавы.

Важнае месца ў кніжцы займае школьніцтва ў роднай мове. На яго прыкладзе добра відаць, якія рэзкія павароты мелі месца на Беласточчыне пасьля вайны і дзе прыймаліся рашэньні. А вырашалася ўсё на цэнтральным узроўні, бяз удзелу мясцовага жыхарства. Калі ўлада ў Варшаве лічыла патрэбным, Беласточчына пакрывалася густой сеткай беларускага школьніцтва; калі ёй гэта перастала падабацца, — школы надзвычай хутка рабіліся польскімі.

Яўген Мірановіч у сваёй працы ставіць шмат пытаньняў, што заўсёды добра сьветчыць пра гісторыка — нават, калі не на ўсе пытаньні ён знаходзіць адказы.

З кніжкай можна ў многіх месцах палемізаваць, але не прачытаўшы яе, далёка ня ўсё будзе зразумелым з навейшай гісторыі Беласточчыны.

Аўтар, пакуль сфармуляваў свае высновы, перакапаўся праз кучу рэдкае літаратуры і, што найважнейшае, праз варшаўскія ды беластоцкія архівы. Праца гэта цяжкая і марудная, але дае плён. Справа ацэнкі яго якасьці належыць да чытачоў.

**М.В.**

# ВАШ РОДНЫ КУТ



Фота В. Мельяновіча

Паважаныя суайчыньнікі! Кожны з Вас, успамінаючы сваю Радзіму, жадае, каб у яго хаце быў твор, дзе мастак-прафэсіянал напісаў з натуры на палатне тую родную мясьціну, блізкую Вашаму сэрцу.

Я магу ажыцьцявіць Вашую мару. Паведаміце, калі ласка, месца знаходжаньня той мясьціны, якую б Вы хацелі бачыць, ці проста беларускі пэйзаж, памер палатна, якая пара году павінна быць на мастацкім творы, і г.д.

Чакаю Вашыя заказы па адрасу: 231799, Беларусь, Гродзенская вобл., г. Слонім, вул. Леашэні, д. 19
Іванову Яўгену
Мой тэлефон: 3-10-59.

# НОВЫЯ РЭЛІГІЙНЫЯ ВЫДАНЬНІ

*ПРАВАСЛАЎЕ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СЬВЕЦЕ* — так называецца часапіс, які пачаў выходзіць у Менску ў 1993 годзе. Часапіс выдаецца Беларускім Праваслаўным Брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў, Кірыла-Мяфодзеўскім Праваслаўным Брацтвам (Польшча) і прадстаўнікамі Беларускіх Праваслаўных Цэркваў Замежжа. Галоўны рэдактар часапісу: пратаярэй Георгі Латушка, а ў рэдкалегію з замежжа ўваходзяць сп.сп. Мікола Ганько (БАПЦ), Кастусь Мерляк і Васіль Шчэцька (беларускія прыходы Грэцкае юрысдыкцыі).

Ва ўступе выдаўцы зазначаюць, што аднэй з мэтаў часапісу ёсьць яднаньне ўсіх праваслаўных беларусаў сьвету. Таксам зазначана, што ў часапісе будуць друкавацца матар'ялы зь беларускіх царкоўных архіваў, тэарытычныя разважаньні беларускіх багасловаў, праблемы беларускай царкоўнай гісторыі ды цяперашняе беларускае праваслаўнае жыцьцё. Адведзенае ў часапісе будзе месца і беларускай прапаведзі ды рэлігійнай літаратурнай творчасьці. Пляны накрэсьленыя выдаўцамі ўжо зьдзейсьніваюцца ў першым нумары — выдрукаваныя цікавыя матар'ялы тэарэтычнага профілю, гісторыя праваслаўных прыходаў, улучна зь гісторыяй беларускага прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў г. Рычманд-Гіле (з кнігі сп. К. Мерляка), матар'ялы да гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Адозвы Зьезду Прадстаўнікоў Беларускае Праваслаўнае Епархіі, Духавенства й Міранаў у Менску ў 1927-м годзе (беларускі пераклад А. Адамовіча). Выдрукаваны таксама даклад сп. Міколы Ганька «Тысяча год Праваслаўнай царквы ў Беларусі», зроблены ім на канфэрэнцыі ў Менску ў Адзначэньне 1000-годзьдзя Хрысьціянства на Беларускіх Землях. Апошні разьдзел часапісу дае біяграфічныя весткі супрацоўнікаў і аўтароў гэтага нумару. Часапіс ілюстраваны. Нажаль, не зазначана пэрыядычнасьць часапісу.

*.БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР НА 1994 ГОД.* Менск, 1993. Гэтае важнае выданьне падрыхтавалі: Леанід Качанка, рэдактар выданьня, ярэй Павел Баянкоў, укладальнік Каляндара і Катэхізіса і Тацьцяна Матрунчык, укладальнік Каляндара і разьдзелу «Беларускія Праваслаўныя Сьвятыні». Выдавец каляндара: Беларускае Праваслаўнае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, за якім таксама захаваныя аўтарскія правы ды зазначаецца, што передрук матар'ялаў дазваляецца пасьля ўзгадненьня з уладальнікам аўтарскіх правоў.

У прадмове старшыня Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, Мікалай Матрунчык падкрэсьляе, што аднэй з галоўных мэтаў выданьня каляндара «было фіксаваньне ўласна беларускага літургічнага часаўспрыманьня», а таксама спалучэньне ў дзейнасьці беларускіх нацыянальных асаблівасьцяў, праваслаўнае веры ды рэлігійнага адраджэньня нашага народу.

Згаджаемся й цалкам падтрымваем выказваньне прадмоўцы, што выданьне такіх друкаў як дадзены каляндар, вельмі патрэбнае ў цяперашнім часе як дапаможнік для аднаўленьня-адраджэньня асабістых філязафічных вартасьцяў чалавека, гэтак і рэлігійнага адраджэньня на Бацькаўшчыне.

У календары, апрача чыста літургічнага прызначаньня, беларускамоўнага катэхізісу, выдрукаваныя матар'ялы: «Беларускія Праваслаўныя Сьвятыні», дзе даецца пералік Беларускіх Сьвятыняў і іх дзеяньняў улучна з Праваслаўнымі Сьвятынямі Беласточчыны, якія адыгрывалі і адыграюць выдатную ролю ў гісторыі разьвіцьця беларускае культуры, а гэта Супрасьльскі манастыр, манастыр у Яблычыне ды Сьвятая Гара — Грабарка. Пададзеныя ў каляндары таксама манастыры й епархіі Беларускага Экзархату.

# ЗІМОВАЯ АЛІМПІЯДА Ў НАРВЭГІІ

27-га лютага сёлета ўрачыста закончылася 17-ая Зімовая Алімпіяда ў Ліллегаммэры, Нарвэгіі. На спаборніцтвах бралі ўдзел і 33 беларускія спартсмэны, якія добра сябе паказалі ў сямёх відах спорту і заваявалі высокія пазыцыі.

Толькі дваццаць дзьве дзяржавы з нацыяў, якія прыймалі ўдзел у Алімпіядзе, выйгралі мэдалі. Беларусь здабыла два срэбныя мэдалі і аказалася на 15-ым мейсцы ў табліцы мэдаляў. Срэбныя мэдалі атрымалі: Ігар Жалязоўскі — канькі (1000 мэтраў) і Сьвятлана Перамыгіна — жаночны біятлон на 7.5 кілёмэтраў. У некаторых галінах спорту Беларусь заняла чацьвертае мейсца, але гэта ўжо бязмэдальная пазыцыя. Аднак і чацьвертае мейсца добра сьведчыць аб патэнцыялах беларускіх спартсмэнаў.

Прыемна было глядзець тэлевізыйныя праграмы, дзе паказвалі беларускіх спартсмэнаў, прыгожа адзетых, вясёлых, з нацыянальным сьцягам. Прыемна было таксама слухаць, як карэспандэнты добра вымаўлялі слова «Беларусь».

**МЭДАЛІ**

| | G | S | B | T |
|---|---|---|---|---|
| Russia | 11 | 8 | 4 | 23 |
| Norway | 10 | 11 | 5 | 26 |
| Germany | 9 | 7 | 8 | 24 |
| Italy | 7 | 5 | 8 | 20 |
| United States | 6 | 5 | 2 | 13 |
| Canada | 3 | 6 | 4 | 13 |
| Switzerland | 3 | 4 | 2 | 9 |
| Austria | 2 | 3 | 4 | 9 |
| Sweden | 2 | 1 | – | 3 |
| Japan | 1 | 2 | 2 | 5 |
| Kazakhstan | 1 | 2 | – | 3 |
| Ukraine | 1 | – | 1 | 2 |
| Uzbekistan | 1 | – | – | 1 |
| Belarus | – | 2 | – | 2 |
| Finland | – | 1 | 5 | 6 |
| France | – | 1 | 4 | 5 |
| Holland | – | 1 | 3 | 4 |
| China | – | 1 | 2 | 3 |
| Slovenia | _ | – | 3 | 3 |
| Britain | – | – | 2 | 2 |
| Australia | – | – | 1 | 1 |

*Англія*

**М. Швэдзюк**

## СЬВ. ПАМ. ЯНКА РОЛСАН



23 студзеня 1994 года пасьля доўгае і цяжкае хваробы адыйшоў на вечны спачын Янка Ролсан, ведамы беларускі грамадзка-царкоўны дзеяч.

Ён нарадзіўся 1-га жніўня 1912 г. у Менску. У канцы чэрвеня 1944 г. пакінуў Менск і апынуўся ў Нямеччыне. Пасьля вайны працаваў на амэрыканскай зоне, ў 1949 годзе эміграваў у Аўстралію, і пасяліўся ў Адэляйдзе, дзе працаваў тэлефаністам.

Да беларускага грамадзкага і парафіяльнага жыцьця актыўна далучыўся ў сярэдзіне 50-тых гадоў. У беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Апосталаў Пятра і Паула Б.А.П.Ц. займаў розныя становішчы: быў і старшынёю Парафіяльнай Рады, сакратаром і царкоўным старастам, і грамадзскім сябрам (якім быў да сьмерці).

Янка Ролсан быў арганізатарам і закладчыкам Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі. Ён падрыхтаваў і апрацаваў Статут Б.А., і зарэгістраваў яго. Янка браў удзел у шматлікіх этнічных арганізацыях і паседжаньнях.

На 150-годьдзе Паўдзённай Аўстраліі у 1986 годзе, ягонымі стараньнямі быў пастаўлены ад беларусаў Адэляйды мэмарыяльны камень і пасаджаньня дрэвы на «мэдіан стрып» на Порт Роад Гаіндмарш. Янка Ролсан быў нашым паэтам і карэспандэнтам падаючы весткі ў беларускую прэсу. Некалькі ягоных вершаў, пакладзеныя на музыку М. Бурносам, сталіся папулярнымі песьнямі ў Адэляйдзе ў сярэдзіне 70-тых гадоў. Быў актыўным арганізатарам Беларускіх Сустрэчаў ў Аўстраліі, ўсякіх імпрэзаў ды сьвяткаваньняў нацыянальнага і рэлігійнага характару. Часта даваў парады, хоць не заўсёды папулярныя, але заўсёды стараўся супрацоўнічаць з усімі, не зважаючы на разыходжаньні, аж да канца свайго зямнога жыцьця.

Пахавальны Абрад выканаў а. М. Бурнос 27-студзеня, хорам кіраваў У. Калесьнiковіч. Перад закрыцьцём дамавіны настаяцель сказаў разьвітальнае слова, а старшыня Парафіяльнай Рады У. Акавіты прынагоднае спачувальнае слова. Пахавалі сьв. пам. Янку Ролсана на магільніку «Чэльтэнгам». Над яго магілай прамаўлялі: старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі Мікалай Колес і былы сакратар Аб'еднаньня Янка Аршанскі. Ад украінцаў разьвітальнае і спачувальнае слова сказаў старшыня Клюбу Пэнсыянераў Іван Вашын.

Пакінуў у смутку жонку Анну і яе двох сыноў Віктара, Анатолія і дачку Тамару з іх сем'ямі, для якіх быў, як родны бацька.

Ад прыхаджанаў, настаяцеля і Парафіяльнай Рады Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла Б.А.П.Царквы, Ганьне і сям'і складаем шчырыя спачуваньні. Хай яму будзе лёгкай аўстралійская зямля, а Усемагутны Бог наш дасьць блажэнства на ўлоньні Аўраама. Вечная памяць.

**а. Міхаіл Бурнос**

### *ПОЛЬСКАЯ ІДЭЯЛЁГІЯ Ў КАСЬЦЁЛАХ БЕЛАРУСІ*

У інтэрв'ю маскоўскай «Незавимой газете» (5.X.93) Прэм'ер-Міністар Беларусі Вячаслаў Кебіч сказаў:

«Але ў чым асаблівасьць польскага касьцёлу? Як толькі чалавек прыймае каталіцтва (я аб гэтым казаў адкрыта двум прэм'ерам Польшчы і Валэнсе), ён як-бы апалячваецца. Ты-ж беларус, толькі прыняў каталіцкае веравызнаньне? Але яны лічаць па-іншаму. Пропаведзі ў нашых касьцёлах чытаюцца на польскай мове. Гэта ня што іншае, як прыношваньне свае ідэялёгіі на тэрыторыю Беларусі. Дзеля гэтага ня трэба спрашчаць праблему каталіцкага веравызнаньня і ўплыву яго на пагляды беларускага народу, асабліва ў Горадзенскай вобласьці. Гэта складаная праблема».

### *НАМ ПІШУЦЬ*

Паважаныя спадары!

Сардэчна дзякую Вам, што стала прысылаеце мне сваю цікавую газэту «Беларус». У нумары 409, за студзень 1994 г., на першай старонцы ёсьць артыкул «Наступ расейскага імпэрыялізму», дзе праўдзіва напісана аб драме беларускай незалежнасьці...

...Вельмі ўсьцешыўся, калі на 6-ай старонцы убачыў здымак а. Васіля Андрэюка, матушкі Вольгі і дзяцей Таісы і Данілы з нагоды 18-цігодзьдзя гэтых дзетак. З цікавасьцю прачытаў і артыкул «Ушанаваньне Таісы й Данілы Андрэюкоў». Дык няхай яны і ад мяне прымуць самыя гарачыя пажаданьні і шмат шчасьця, радасьці, посьпехаў і Божага благаслаўленьня...

**Мікалай Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя, Беласточчына**

### *ГАРАДЗЕНСКІЯ ЗАПІСЫ*
**(Старонкі гісторыі і культуры)**
*Першы выпуск, 1993 году*

Выданьне спансэруецца Гродзенскім Унівэрсытэтам імя Янкі Купалы, Факультэтам Беларускай Філялогіі і Культуры і Гродзенскай Суполкай Беларускага Фонду Культуры. Рэдакцыйная калегія запісаў: Павел Сцяцко, галоўны рэдактар, Генадзь Семянчук, адказны сакратар, сябры рэдкалегіі: Сяргей Габрусевіч, Ігар Жук, Аляксяй Пяткевіч і Яўгенія Таюрская.

Матар'ял у выданьні разьмешчаны ў гэткіх разьдзелах: З гісторыі Гародні; На зямлі Гарадзенскай; Лёсы людзкія — абагульненыя ў сэкцыю Дасьследваньні. Іншыя сэкцыі улучаюць: Крыніцы й Памятныя Даты.

Выданьне, бясспрэчна, новая вяха як у дасьледваньні Гародзеншчыны, гэтак і гістарычна-краязнаўчых дасьледваньнях цэлая краіны. Трэба спадзявацца, што гэтае выданьне знойдзе шляхі і ў навукова-дасьледчыя цэнтры славяназнаўства на захадзе.

## СТРАТА ШЧЫРАГА СЯБРА

Зь вялікім сумам і болем у сэрцы прыняў я вестку аб перадчасным адыходзе на вечны супачынак аднаго з найлепшых маіх сяброў і супрацоўніка Беларускіх радыяпраграмаў у Пэрце, Сяргея Карніловіча. Асабіста сустрэцца з сьв. пам. Сяргеем мне не давялося, хоць і не адзін раз ён запрошваў на ладжаныя беларусамі ЗША і Канады мерапрыемствы, на якія, дзеля свае занятасьці, я ня мог паехаць. Аднак і гэткі стан рэчаў ня стаў на перашкодзе нашаму супрацоўніцтву.

Нашае ліставаньне зь Сяргеем пачалося ў лютым 1983 году за пасярэдніцтвам Аркадзя Сацэвіча, да якога я зьвярнуўся з просьбай дапамагчы Беларускім радыяпраграмам у Пэрцы кружэлкамі, якіх у Аўстраліі купіць было нельга. Ня мінула і чатырох тыдняў, як я атрымаў ад Сяргея 20 кружэлак і першы ліст. У гэтым лісьце, з нагоды ўвядзеньня беларускае мовы ў Этнічнае радыё, сваю радасьць Сяргей выказаў так: «Дарагі сябра Міхась, вітаю беларусаў Заходняй Аўстраліі зь вялікім дасягненьнем на грамадзкай ніве, ды хай Бог дасьць Вам усім добрага здароўя, вытрывальасьці і плённай працы ... Ня думай толькі плаціць за кружэлкі... Гэта наша агульная Справа...». У гэтых шчырых словах я вычуў, што маю дачыненьне не з пасярэднім суродзічам, але адданым беларускім патрыётам, зь якім можна працаваць, дзяліць радасьць і гора. Ягоныя словы дадалі нам ахвоты да працы ня толькі на пачатку, але ўтрымоўваюць на духу і сёньня.

Сьв. пам. Сяргей дапамагаў Беларускім радыяпраграмам у Пэрце ня толькі кружэлкамі, але й фінансамі (калі была ўведзена сыстэма даплачваньня за радыячас), а таксама і матар'ялам для праграмаў. Праз увесь час нашага ліставаньня, якое спынілася толькі на пачатку гэтага году, Сяргей заўсёды цікавіўся толькі нашай працай у радыё і ў ніводным лісьце ня пісаў аб сабе і стане здароўя.

Для Беларускіх радыяпраграмаў у Пэрце адыход Сягрея — гэта вялізарная страта, аб якой мы тут ня зможам забыцца ніколі. Вечная Яму памяць, а сваяком і сябром глыбокае спачуваньне.

Дык хай-жа пухам Табе, дарагі сябра, будзе гасьцінная амэрыканская зямелька і вечна сьняцца сны аб Беларусі!

Пэрт, Заходняя Аўстралія, 3.11.1993 г.

**Міхась Раецкі**

## СЬВ. ПАМ. НАТА КАРАКУЛЬКА



11 лютага сёлета трагічна загінула ў аўтамабільнай катастрофе ў расквіце сваіх гадоў сьветлай памяці Натальля Каракулька (Кіркевіч).

Нарадзілася Ната 3 красавіка 1940 г. у сталіцы Беларусі Менску. Падчас другое сусьветнае вайны з бацькамі апынулася ў Нямеччыне.

У 1950 годзе сям'я Кіркевічаў прыехала ў Амэрыку й пасялілася ў Саўт Рывэры, Нью-Джэрзі. Тут Ната была вучаніцай суботняй школы беларускай праваслаўнай царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, актыўнай сяброўкай Саюзу Беларускай Моладзі й Саюзу Беларускіх Студэнтаў у Амэрыцы. У 1962 годзе закончыла Даглес Калэдж Ратгэрскага Унівэрсытэту ў Нью Брансуіку, Нью Джэрзі, факультэт біялягічных навукаў.

Сьветлай памяці Ната брала актыўны удзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў Саўт Рывэры. Яна мела прыгожы прыемны голас, якім чаравала слухачоў на імпрэзах, урачыстасьцях і сцэнічных пастаноўках. Сьпявала ў царкоўным хоры, у мяшаным хоры Вячаслава Селях-Качанскага й у жаночным хоры «Каліна» Ксавера Барысаўца. Ната мела прыродныя артыстычныя здольнасьці, цудоўна натуральна выконывала свае ролі, як напрыклад галоўную ролю ў ведамай п'есе Янкі Купалы «Паўлінка». У Г'юстан, Тэксас сьпявала ў опэры.

У 1963 г. Ната выйшла замуж за Віталя Каракульку й пасьля шлюбу паехала ў Сібрук, Тэксас недалёка Г'юстан, бо муж Віталі ужо прававаў там як інжынер для NASA (National Aeronautic and Space Administration). Нават з Тэксас Ната прыяжджала ў Нью Джэрзі на беларускія нацыянальныя урачыстасьці й зьезды.

Апошнімі гадамі Ната працавала перакладчыцай для NASA, шмат разоў па працы езьдзіла ў Маскву й Казахстан.

Вельмі рэдка Бог надзяляе людзей усімі здольнасьцямі й дарамі. Сьв. пам. дарагая Ната была вельмі прыгожай жанчынай з добрым розумам, чулым вялікім сэрцам і асабліва мілым, магнэтным характарам, яна была шчырай беларускай патрыёткай.

Карысталася пашанай і ўвагай Ната і ў Г'юстане: вялікая група касманаўтаў прыйшла ў пахавальны дом, каб аддаць апошнюю пашану і разьвітацца з усімі паважанай і любімай Натай.

Паховіны сьв. пам. Наты адбыліся 16 лютага сёлета на магільніку Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятой Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, дзе пахаваны яе бацька Аўген.

Хоць была халодная пагода й вялікі сьнег, прыехала шмат сяброў, прыяцеляў і высокадастойных людзей каб аддаць апошнюю пашану й разьвітацца з дарагой Натай і выказаць шчырае спачуваньне яе родным.

На магільніку разьвітальнае слова сказаў айцец Мячыслаў Брынкевіч, настаяцель Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. На памінальным абедзе пасьля паховінаў прамаўлялі сп. Міхась Бахар, сп-ня Ірына Цупрык, сп-ня Віла Ляўчук, сп. Алекс Сільвановіч, сп. Мікалай Сіцько.

Перадчасная трагічная сьмерць сьв. пам. дарагой Наты ёсьць цяжкой балючай стратай для маткі Элеаноры, мужа Віталя і дарослых дзяцей Ніны й Колі (Нікі) з жонкай Аліцыяй.

Ёсьць цяжкой стратай для усіх, хто меў шчасьце й гонар яе ведаць, вялікай стратай для ўсёй сьведамай беларускай грамады ў Амэрыцы й для Бацькаўшчыны Беларусі.

Бывай, дарагая сяброўка, дарагая беларусачка Ната. Сьветлая добрая памяць па табе застанецца ў нашых сэрцах назаўсёды.

**Міхась Бахар**

## СЬВ. ПАМ. МАТУШКА ВЕРА КАЙКО



Сьвятой памяці матушка Вера Сакалоўская-Кайко нарадзілася 11 траўня 1904 г. на хутары Лаські, што ў Драгічынскім раёне на Беларусі. Ад 1951 спакойна жыла ў Амэрыцы, у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.

Пасьля даўгой хваробы адыйшла ў лепшае жыцьцё 25 лютага сёлета. Пакінула ў смутку дзьве дачкі Лізу Літаровіч і Ніну Сільвановіч зь сем'ямі ў Саўт Рывэры, сына Уладзіміра Кайко ў Аўстраліі, сястру Марыю Мулярчук і брата Сяргея Сакалоўскага на Беларусі. Сын Сяргей Кайко памёр 18 лютага 1993 году ды таго-ж году, 29 сакавіка, памёр унук Расьціслаў Літаровіч.

Вечная памяць.

**НОВАЯ ФОРМА АДРАСУ «БЕЛАРУСА»!**

Калі ласка, запішэце сабе новую форму адрасу газэты «Беларус»:

**Bielarus
P.O. Box 310178
Jamaica, NY 11431-0178**

## У РЭДКАЛЕГІІ «БЕЛАРУСА»

Пачынаючы з сакавіковага нумару, газэту «Беларус» рэдагуе сп-ня Зора Кіпель. Папярэдні рэдактар Янка Запруднік ўзяўся апрацоўваць «Гістарычны слоўнік Беларусі» на прапанову ад амэрыканскага выдавецтва.

## СЬВ. ПАМ. АНТОН БЯЛЕНІС



20-га студзеня сёлета, пасьля зацяглай хваробы памёр на 85-ым годзе жыцьця Антон Бяленіс.

Нарадзіўся ў вёсцы Галіна, што на Віленшчыне, аб якой часта ў гутарках успамінаў, асабліва аб навакольным лесе.

Антон Бяленіс скончыў гімназію ў Вільні, а філязофію ў Станісалававе, на Украіне. У часе вайны працаваў настаўнікам ды на іншых грамадзкакультурных становішчах. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну. Пасьля вайны атайбаваўся ў Мюнхэне, дзе арганізаваў Саюз Беларускіх Студэнтаў, у якім прыймаў актыўны ўдзел. Паступіў спачатку на мэдычны факультэт Мюнхэнскага Унівэрсытэту, але хутка перайшоў на багаслоўе пры тым-жа Унівэрсытэце.

У 1951 г. пераехаў у Чыкага, дзе ўладкаваўся на працу. Ажаніўся з Людвікай, дачкой ведамага беларускага дзеяча Эдварда Будзькі ды уключыўся ў арганізацыйнае жыцьцё беларускай грамады Чыкага. Тут тады дзейна працавалі на беларускай грамадзка-культурнай ніве а. Янка Тарасэвіч, а. Язэп Рэшаць, Я. Варонка, Я. Змагар-Чарапук, І. Лабач, М. Аблажэй, ды іншыя, якія залажылі Беларускую Нацыянальную Раду ў Чыкага.

Антон Бяленіс прыймаў актыўны удзел у арганізаваньні беларускай каталіцкай парафіі усходняга абраду Хрыста Збаўцы,пяяў у ейным хоры пад кіраўніцтвам сьв. пам. М. Куліковіча ды іншых дырыгэнтаў. Быў некалькі разоў старшынём Згуртаваньня Беларусаў у Штаце Ільліной а таксама аднаразова старшынём Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага.

Праз даўгія гады прыймаў удзел у ладжаньні Каляднай ялінкі ў Музэі Навукі і Індустрыі ў Чыкага ды й сам нарыхтоўваў розныя упрыгожаньні.

Быў гасьцінным, як і ягоная жонка Людвіка і шмат гасьцей беларусаў пабывала ў іхнай хаце. Быў шчодрым у дапамозе на беларускае выдавецтва ды іншыя грамадзкія і харытатыўныя мэты. Любіў паўтараць філязофскае выслоўе: «Вартасьць жыцьця чалавека ні ў даўжыні пражытых гадоў, а ў ліку добрых чынаў».

21-га студзеня ў пахавальным доме а. Ангел Марзаль адслужыў паніхіду, пасьля якой др. Вітаўт Рамук у кароткім слове нагадаў пра жыцьцё і дзейнасьць сьв. пам. Антона Бяленіса і выказаў спачуваньні ягонай вернай спадарожніцы ў жыцьці, жонцы Людвіцы, брату Лявону з дачкой Барбарай, швагерцы Ірэне Пануцэвіч з дачкай Ромай, ейным мужам і сынам. Спадарыня Рамук зачытала свой верш у ягоную памяць.

22-га студзеня а. Ангел Марзаль у асысьце а. Язэпа Сыру адслужыў літургію ў беларускай каталіцкай Царкве Хрыста Збаўцы. Цела нябожчыка было перавезенае на могілкі Сьв. Альбэрта. Пасьля кароткай паніхіды ды адсьпяваньня «Сьпі пад курганам героя\u0443», сп. М. Латушкін у сваім слове нагадаў пра людзкую спагадлівасьць Антона Бяленіса і перадаў спачуваньні ягонай жонцы Людвіцы ад імя беларускай праваслаўнай Царквы Сьв. Юрага.

Сьпі спакойна, прыяцелю, на вольнай зямлі Вашынгтона. Хай сьняцца Табе сны пра сінявокую Беларусь.

**Др. Вітаўт Рамук**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| а. М. Бурнос, замест вянка на магілу с.п. Янкі Ролсана | аўстр.д. 30 |
| а. М. Бурнос | 20 |
| Л. Літаровіч | ам.д. 30 |
| З. і В. Кіпелі, замест кветак на магілу Наты Каракулька | 50 |
| З. і В. Кіпелі, замест кветак на магілу матушкі Веры Кайко | 50 |
| В. Макац | 20 |
| В. Багдан | 50 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| М. Латушкін | 25 |
| П. Барысік | 54 |
| В. Мельяновіч | 50 |
| Я. Шымчык | 30 |

Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:

| | |
|---|---|
| М. Сьнежка | 100 |
| Л. Колін | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| Ю. Рэпэцкі | 50 |
| М. Каранеўскі | 50 |
| В. Кажан | 40 |
| О. Грыцук | 30 |
| а. В. Андрэюк | 30 |
| Л. Сакові\u0447 | 30 |
| Г. Гэльвіг | 25 |
| П. Конюх | 25 |
| С. Трыгубовіч | 25 |
| Л. Гутарчык | 25 |
| У. Харавец | 25 |
| Разам | ам. д. 555 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| М. і В. Сьнежкі | ам. дал. 100.00 |
| А. Протас | 20.00 |
| А. Субота | 10.00 |
| Б.Даніловіч | 20.00 |
| Ю. Станкевіч | 25.00 |
| С. Нарушевіч | 50.00 |

*На выданьне кнігі аб Беларускай Гімназіі імя Янки Купалы ў Заходняй Нямеччыне ахвяравалі:*

| | |
|---|---|
| А. Рамана | ам. дал. 500.00 |
| В.і З. Кіпель | 500.00 |
| М. Сіцько | 200.00 |
| Т. Аўдзей | 200.00 |
| Я. Жучка | 200.00 |
| К. Вортс | 100.00 |
| І. Каханоўская | 100.00 |
| А і Ж. Дубягі | 100.00 |
| В. Кажан | 80.00 |
| М. Каранеўскі | 100.00 |

***Падпішэцеся на газэту «Беларус» для суродзіча на Бацькаўшчыне.***

УВАГА! УВАГА!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

*Адміністрацыя*